БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ–CHURCH NEWS

BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH

Published by Parsh of St. Kiryla of Turau

524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025

Год. 15 Вялікдзень, 1996 1(54)

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!**

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

«Усе вы, што ў Хрыста хрысьціліся,
у Хрыста апрануліся» (Гал. 3:27)

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры!

Сёньня мы сьвяткуем перамогу Ісуса Хрыста над сьмерцяй, бо яна дае і ўсім нам веру ў перамогу ўсялякіх цяжкасьцяў, што бываюць у нашым жыцьці. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — гэта ня ўсё. Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам і кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. Простыя людзі разам з фарысеямі ня раз абкідалі Яго нягоднымі словамі, а сёньня мы бачым сілу славы Ягонае ў Ягоным уваскрасеньні. Гэта сіла самаіснаваньня, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (1Ян 5:4). Сёньня, дарагія мае, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы адзначаем падзеі ў нашай сьвятой Беларусі, што закранаюць кожнага з нас, беларусаў. Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, жывем у часе працесу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асабліва трэба мець прад вачыма жыцьцё сьвятых і браць іх за прыклад.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынцянаў, кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі шчырасьці й праўды» (1Кар. 5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста. Бо ж гэта пра нас сказана: «Усе вы, што ў Хрыста хрысьціліся, у Хрыста апрануліся» (Гал. 3:27).

Гэта азначае, што ўсе мы, хто вераю, замацаванай хростам, прыняў у сябе, у сваю душу Хрыста, тым самым прыняў Хрыста, як духоўную вопратку, і павінны ўсім сваім жыцьцём выяўляць Хрыста. У гэтай вопратцы мы павінны быць уважлівымі на людзкія недахопы, быць цярплівымі, не дакараць адзін аднаго, але выбачаць адзін аднаму, як і Хрыстос ня толькі выбачаў правіны людзям, але нават пакутаваў за іх. Хрыстос дабраволына прыняў пакуты на крыжы за нашыя грахі, каб потым зьявіць сілу, як Бог, Сваім уваскрасеньнем.

Дарагія мае, сапраўдны хрысьціянін павінен мець у сваёй душы Хрыста, шчыра вераваць у Яго, каб адчуваць разам з апосталам Паўлам, які кажа: «І ўжо ня я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос. А што цяпер жыву ў целе, дык жыву вераю ў Сына Божага, Які палюбіў мяне і аддаў Сябе за мяне» (Гал. 2:20).

Апостал Павал перасьцерагаў Афесцаў, і казаў ім: «Ня ўпівайцеся віном, ад якога бывае распуста; а напаўняйцеся Духам, настаўляючы саміх сябе псальмамі і славаслоўем і духоўнымі сьпевамі, сьпяваючы і апяваючы ў сэрцах вашых Госпада» (Аф. 5:18-19). А гэта азначае, каб мы ня былі духоўнымі сьляпцамі, каб славілі Госпада, Які сваёй крывёй абмыў наш грэх на крыжы, быў пахаваны й на трэці дзень уваскрос.

Няхай жа кожны з нас, зь вераю і ў поўным перакананьні непаслабна дзейнічае, каб нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах уся Сьвятая Беларусь з удзячнасьцю Богу славіла ўваскрослага Госпада нашага

там і адзін аднаго абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак запяём: "Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў».

Усіх вас, дарагія Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень, 1996
Таронта, Канада
мітрап. МІКАЛАЙ

**ЯК ВЫ МЯРКУЕЦЕ СПАДАРСТВА?**

Прыехаўшы больш чымсьці тры гады таму ў Канаду стаўся сябрам тутэйшае Беларускае Грамады. Было вельмі прыемна адчуць сябе зноў сярод сваіх братоў-беларусаў. Было для мяне адкрыцьцём і існаваньне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Яшчэ большым адкрыцьцём было для мяне інфармацыя пра існаваньне нават дзьвюх БАПЦ.

Такая зьява не магла не выклікаць цікавасьці новапрыбылога беларуса. Стаў я цікавіцца гэтым пытаньнем. Спытаўся ў Уладыкі Мікалая, атрымаў адказ. Яшчэ тады зьдзівіла мяне, як ён вельмі інтэлігентна й далікатна апісаў сітуацыю. Не пачуў ад яго ніводнага ганебнага слова пра ягоных апанентаў. Шчыра гаворачы, гэта зьяўляецца прыемным выключэньнем, бо разьбіраючы архівы нашае эміграцыі перакана́ўся, што бруду выліць адзін на аднаго ніколі не шкадавалі.

Але паколькі атрымліваць інфармацыю я прызвычаіўся ад двух бакоў, зьвярнуўся да Ўладыкі Ізяслава за тлумачэньнямі. У адказ атрымаў ліста ад ... Барыса Данілюка. Ну вядома, хто я такі каб САМ Уладыка Ізяслаў мне адказываў. Хоць шчыра гаворачы, быў перакананы што пытаньне адзінства царквы павінна хваляваць перш за ўсё яго самаго. Адказ спадара Данілюка мяне вельмі зьдзівіў. Я ня ведаю ў каго спадар Данілюк вучыўся, але вось вывучку прадэманстраваў у «лепшых камуністычна-камісараўскіх» традыцыях. Менавіта яны навучыліся не адказываць на пытаньні, а прымушалі верыць. Ну а тых, хто далей пытаўся проста стралялі. Дык вось спадар Данілюк умудрыўся не адказаўшы ні на воднае пытаньне, аднак хапіла яму аблаяць па ўсякаму Ўладыку Мікалая, а БАПЦ, якую Ўладыка Мікалай ачолівае, абазваць "Сэктай".

Я прыглядзіўся ўважліва і перакана́ўся, што няма ніякіх адрозьненьняў зь іншымі праваслаўнымі цэрквамі. Адно толькі розьніць, што багаслужбы ідуць па-беларуску. Але гэта якраз тое, што й трымае мяне ў гэтай царкве. Далей я паспрабаваў ня ўнікаць. Бо быў перакананы, што паколькі не я гэтую сварку распачаў, то і ня мне яе спыняць. Хоць шчыра кажучы той падзел і эміграцыі й БАПЦ здаюцца мне штучнымі. Бо вельмі ж гэта падобна на сварку двух хлапчукоў, дзе мае месца такі прыблізна дыялог — «Дурань!» — «Ты сам дурань!». Вось толькі хлапчукі хутка паміraцца. А нашыя "хлапчукі" ніяк не паміraцца вось ужо 50 гадоў.

Таму рашучыя й своечасовыя захады Ўладыкі Мікалая па спыненьню варажнечы й аб'яднаньню БАПЦ здаліся мне амаль цудам. Упэўнены, што бальшыня нашае паўночна-амерыканскае дыяспары ўздыхнулі з палёгкай і надзеяй. Як і ўсе іншыя я з надзеяй і нецярпеньнем чакаў як сустрэне другі бок працягнутую адчыненую руку Ўладыкі Мікалая. Я чакаў, што адказ будзя станоўчы, іншыя чакалі на рашучую адмову. Але адказ быў вельмі традыцыйным — чарговая партыя бруду. І вось я трымаю гэты бруд перад вачыма. Што гэта? Ці разумны, псыхічна здаровы чалавек стане пісаць штосьці падобнае пад назовам «Паведамленьне Кансысторыі БАПЦ». Шчыра кажучы гэта выглядае як чыстае вады шантаж. Я не жадаю чапаць гісторыю БАПЦ, адно толькі хацеў напомніць, што няма сьвятых у нашае царкве, успомнім Уладыку Андрэя, Хіратонію Ўладыкі Ізяслава.

Вельмі хочацца каб мяне пачулі менавіта вернікі іншае БАПЦ. А можа спадарове успомнім мудрасьць Чэрчыля, а можа яшчэ каго іншага, што вайна занадта сур'ёзная справа каб давяраць яе генералам. Можа ёсьць сэнс, як у Ватыкане, дзе каб абраць Папу запіраюць кардыналаў у адным пакоі і выпускаюць толькі пасьля абраньня, можа каб заперці й нашых Уладыкаў і ня выпускаць пакуль не паміraцца. Бо справа ідзе аб вельмі дарагім для нас усіх будучым лёсе нашае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Як вы мяркуеце спадарства?

Раман Кардонскі

**БЕЛАРУСЬ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ПАСЬЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ**

Захворваньні на рака шчытавіднай залозы сярод дзяцей у Беларусі павялічыліся на 285 працэнтаў.

Нараджальнасьць у Беларусі зьнізілася на 50 працёнтаў.

Радыяцыя ня толькі спрычыняе захворваньні ракам, яна паніжае імунітЭт, паслабляючы адпорнасьць арганізму на хваробы.

Мільёны беларусаў яшчэ ўсё жывуць у раёнах высокай радыяцыі, якою пакрытыя 30 працэнтаў тэрыторыі краіны.

Больш за 20 працэнтаў гадавога бюджэту дзяржавы ідзе на выдаткі, зьвязаныя з чарнобыльскай аварыяй.

Паводле апошніх падлікаў, шкода, нанесеная чарнобыльскай катастрофай, будзе каштаваць рэспубліцы ў пэрыядзе 1986-2015 гадоў 235 мільярдаў даляраў.

Вось суровая статыстыка дзесяць гадоў пасьля чарнобыльскай бяды, што напаткала Беларусь 26 красавіка 1986 году. А яшчэ горш тое, што гэтыя лікі мяняюцца, і мяняюцца ў горшы бок. Прыкладам, спэцыялісты аховы здароўя прадказваюць, што яшчэ каля 20 тысячаў дзяцей захварэюць на рака ў недалёкай будучыні. Апрача гэтага, тысячы дзяцей і дарослых памруць раней свайго часу дзеля нястачы патрэбных лекаў і вітамінаў. Асабліва не стае антыбіётыкаў. Стан здароўя насельніцтва будзе пагаршацца таксама ў выніку далейшага эканамічнага спаду. Назіраюцца выразныя адзнакі таго, што дапамога з-за мяжы рэзка зьмяншаецца. Коратка кажучы, пацыент хворы і шанцы на паправу слабыя. Некаторыя экспэты наагул ставяць пытаньне, ці выжыве Беларусь як нацыя, ці перажыве найцяжэйшую за ўсе часы прамысловую аварыю, што выкінула радыяцыі ў 30-40 разоў больш, чым атамныя бомбы, скінутыя на Гірасіму і Нагасакі.

Сёлета дзейнасьць, зьвязаная з чарнобыльскай дапамогай, узмоцненая ў сувязі зь дзесятымі ўгодкамі аварыі. І гэта аднаўляе ўвагу, як і павінна быць, да пакутаў тых, хто пацярпеў.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ) праз свой Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, узначальваны Мітрапалітам Мікалаем (Васіль Русак сакратар, Аляксандар Сільвановіч скарбнік (каардынатар), брала ўдзел у завозе ў Беларусь (тры грузы, усяго разам восем 40-футовых кантэйнераў агульнай вартасьцю, прыблізна, шэсьць мільёнў даляраў мэдыкаментаў, мэдычных прыладаў, харчоў і цацак для хворых дзяцей. Кожны раз прадстаўнік(і) БАПЦ суправаджалі груз і дапамагалі ў разьмеркаваньні яго шпіталям, дзіцячым дам*ам* і прытулкам. Хоць фінан-

савыя магчымасьці БАПЦ вельмі сьціплыя, шчодрая падтрымка з боку вернікаў і прыяцеляў, асабліва ад Кліўлендзкае парафіі Божай Маці Жыровіцкай, умажлівіла значную дапамогу ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Сёлета на 10-я ўгодкі чарнобыльскай аварыі мы ізноў хочам падкрэсьліць значэньне дапамогі і нашу пранятасьць справаю дабрабыту братоў і сясьцёр у Беларусі. Мы ізноў бяром удзел, супольна зь Дзіцячым Чарнобыльскім Фондам Рамапаўскае Сярэдняе Школы, у завозе ў Беларусь вялікага грузу (тры 40-футавыя кантэйнеры вартасьцю, прыблізна, 4,5 мільёна даляраў, у тым ліку на 1,5 мілёна даляраў антыбіётыкаў) мэдыкаментаў і мэдычных прыладаў. Двое прадстаўнікоў БАПЦ разам з 24 вучнямі і 6 настаўнікамі Рамапаўскай СШ паедуць у Беларусь, каб узяць удзел у разьмеркаваньні грузу. Рамапаўскія школьнікі раздадуць таксама хворым дзеткам цацкі і выступяць з паўгадзіннай канцэртнай праграмай, загалоўленай «Памятныя 1950-я гады — рок-ён-рол«, якую пакажуць у 10 шпіталях. Школьнікі выканаюць таксама дзьве песьні па-беларуску.

У мінулым шмат хто зь лекароў, санітарак і бацькоў хворых дзяцей казалі нам, што Беларусь дастае дапамогу з многіх краін ды што яны вельмі ўдзячныя за ўсю гэтую ўвагу і дапамогу. Але дапамога мае асаблівую вартасьць, калі ідзе ад замежных суродзічаў. Людзі на Бацькаўшчыне кажуць, што мы ім даём шмат больш, чымся мэдыкаменты, якія лечаць цела, але й нешта, чаго мэдыкаментамі не дасягнеш — лек для душы. Калі чуеш такія словы, дык думаеш, што гэта — найлепшае супрацьдзеяньне патоку прапаганды нянавісьці, якою зь некаторых тэлевізійных каналаў кормяць беларускае жыхарства.

Калі Вы хочаце яшчэ раз далучыцца да справы дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, Вы можаце пасланць ахвяраваньне (вызваленае ад пада такаў) на адрас:

**BAOC FUND FOR CHERNOBYL VICTIMS**
**9 River Road,**
**Highland Park, NJ 08904**

*Памятайце, што Вашае ахвяраваньне прынясе больш, чым мэдыкаменты, які лечаць цела, яно панясе з сабой нешта вялікае — тое, што лечыць душу.*

*Аляксандар Сільвановіч*



*Студэнты з Рамапо Чігч Сцчоол ладуюць адзін з трох кантэнераў мэдыцыну й мэдычныя прыборы, якія адсылаюцца на лячэньне хворых дзяцей ў Беларусь*

## BELARUS TEN YEARS AFTER CHERNOBYL DISASTER

*Alexander Silwanowicz*

- **Thyroid cancer among children in Belarus is up 285 percent**
- **Birth rates in Belarus are down 50 percent**
- **Radiation not only causes cancers, it attacks immune system, making people more vulnerable to other diseases**
- **Millions of Belarusans still live in contaminated areas (30% of Belarusan territory has high levels of radiation)**
- **Belarus is spending over 20 percent of its annual budget on Chernobyl-related costs**
- **New estimates for the total damages from the Chernobyl catastrophe for the period of 1986 to 2015 are placed at $235 billion**

These are the grim statistics for Belarus ten years after the Chernobyl disaster of April 26, 1986. What makes it even worse, is that these numbers are changing and they are changing in a wrong direction. For example, health organizations predict that in Belarus 20,000 more children will develop cancer in a near future and many more children and adults will needlessly die because their immune system is weakened and there is severe shortage of critical medicines and vitamins. Antibiotics are in particular in short supply. The health situation will be further negatively affected by continuous economic crisis. There is also strong evidence that humanitarian assistance from abroad is on a steep decline. In short, the condition of the patient is serious and the prognosis is bleak. Some experts are seriously questioning whether Belarus, as a nation, will survive the greatest industrial accident of all time. An accident that released thirty to forty times the amount of radioactivity of the atomic bombs dropped on Hiroshima and Nagasaki.



*Сп. Аляксандар Сільвановіч скабнік Фонду пацярпеўшым ад аварыі Чарнобіля пры Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ўручае чэк на 6,000.оо ам. дал. сп. Доналд Цаірнс, Прэсідент Рамапо Чілдрен оф Чернобыл Фунд. Гэтыя дзьве інстытуцыі; Царква й школа пакрываюць перасылку мэдыкаментаў у Беларусь.*

This year there is an increase in activities related to Chernobyl Disaster because of the 10th anniversary of the accident. This will draw attention anew, as it should, to the continued suffering of its victims.

The Belarusan Autocephalic Orthodox Church (BAOC) through its "Fund for Chernobyl Victims in Belarus" with Metropolitan Mikalay as its chairman, (Vasil Rusak - secretary and Alexander Silwanowicz - treasurer/fund coordinator) has sponsored in the past three shipments (8 forty- foot containers worth approximately

six million dollars) of medicines, medical supplies, food and food supplements and toys for the sick children. Each time representative(s) from BAOC have accompanied the shipment and helped distribute it to hospitals, children homes and orphanages. Even though the financial resources of the BAOC are very modest, the strong support of the Chernobyl assistance program given by BAOC members and its friends and in particular by the Cleveland Parish of Mother of God of Zyrovicy, allowed us to provide significant aid to the victims of Chernobyl in Belarus.

This year, on the 10th anniversary of the Chernobyl disaster, we again want to emphasize our support and concern for the well being of our brothers and sisters in Belarus and are cosponsoring with "Ramapo Children of Chernobyl Fund" a large shipment (3 forty- foot containers, approximately worth 4.5 million dollars of which 1.5 million dollars worth are antibiotics) of medicines and medical supplies. Two BAOC representatives along with 24 students and 6 teachers from Ramapo High School will travel to Belarus to participate in distribution. The Ramapo High School students will also bring alonh stuffed animals for the sick children and give a half hour concert of song and dance entitled "Fabulous Fifties - Rock and Roll" at 10 hospitals. By the way, two songs in their repertoire will be in Belarusan.

In the past many of the doctors, nurses and parents of the sick children have told us that Belarus gets assistance from numerous countries and that they are very grateful to all of them for their concern and support, but it is extra special when this concern and support comes from fellow countrymen living abroad. We were told that the medicines that we bring cure more than their bodies, it gives them something no ordinary medicine can provide, a cure for their sou les.

Words like that that seem to tell us that the Chernobyl victims assistance is the best antidote to the steady diet of hatred that is fed from some TV channels to the Belarusan population.

If you want to show your concern and support for Chernobyl Victims in Belarus you can make a tax deductible contribution to:

**BAOC FUND FOR CHERNOBYL VICTIMS**
**9 River Road**
**Highland Park, NJ 08904**

***Remember that your donation will provide more than just the medicine to cure the body, it will provide something that also cures the soules!***

**ДАПАМОГА ДЗЕЦЯМ У БЕЛАРУСІ**

На просьбу з Беларусі сп-ня Марыя Ганько дабравольна й безкарысна занялася высылкай ад парафіі Сьв. Кірылы Тораўскага БАПЦ дапамогі беларускім дзецям у Беларусі, а таксама беларускім дзецям у Летувіі.

Ад 1994 году ўжо выслана ў Беларусь 51 пачку вопраткі прыблізна агульнай вагой 1300 кг, а перасылка каштавала 2,419.41 дал. Таксама выслана дапамога беларускім дзецям у Летувіі 28 пачак вопраткі з харчамі прыблізна агульнай вагой 750 кг, перасылка з коштам харчоў каштавала 1,575.51 дал.

Вялікую колькасьць за стараньнем сп-ні М. Ганько мы атрымалі вопратку ад іншых цэркваў і дабрачынных устаноў. А грошы на пакрыцьцё перасылкі атрымалі ад нашага грамадзтва.

Ужо ідзе падрыхтоўка да наступных перасылак пачкаў. Калі ў вашай хаце назьбіралася добрай ужыванай вопраткі (годнай да ўжытку). Альбо, калі ведаеце каго з вашых сяброў ці знаёмых, альбо прыяцеляў, дзеці якіх вырасьлі, а вопратку трымаюць, як памятку, зьвярніцеся да іх і папрасіце, каб яны ахвяравалі яе патрабуючым бедным дзецям. Зьбярыце й прывязіце вопратку ў царкоўную залю **пры 524 St. Clarens Avenue, Toronto, Ontario, Canada, M6H 3W7.**

Калі ж Вы ня можаце нічога даць з вопраткі, дык ахвяруйце пару даляраў на перасылку вопраткі ў Беларусь на адрас: **Parish of St. Kiryla of Turau, 524 St. Clareens Avenue, Toronro, Ontario, Canada, M6H 3W7.** Чэкі выпісвайце на **Parish of St. Kiryla of Turau**, зазначаючы, што Вашая ахвяра прызначана на дапамогу дзецям у Беларусі.

Кожны з нас уключна з Вамі ведае, што пара нагавіцаў у школьнага хлопчыка ці сыкенка ў дзяўчынкі доўга ня трымаюцца. А пара нагавіцаў ці сукенка школьнікам каштуе амаль адну траціну матчынага месячнага заробку. А маці й ейныя дзеці патрабуюць есьці. Гэта толькі адзін з многіх прыкладаў. Ёсьць людзі, якія кажуць: мы маем сваіх у Беларусі. Так, Вы праўду кажаце, але няхай крошка хлеба з Вашага стала ўпадзе, тым бедным дзецям, якім няма каму прыслаць.

Дарагія суродзічы заклікаем усіх Вас, будзем дабрадушнымі ды адгукнемся зь любасьцю на лямант дзетак нашых суродзічаў у Беларусі. А яны будуць удзячныя нам, тым хто ім памагае.

Дык выканаем свой хрысьціянскі абавязак міласердзя.

архіяп. МІКАЛАЙ

**УВАГА!** Просім прысылайце вопратку, хоць ужываную, але чыстую, каб ня трэба было нам мыць яе.

**НОВЫ СЛУЖБОЎНІК**

У мінулым годзе выйшаў Службоўнік — Service Book. Як сам загаловак кажа, службоўнік ёсьць двумоўны; Беларуска ангельскі. Службоўнік выгадны тым, што англамоўныя дзеці беларускіх бацькоў могуць лёгка разумець праваслаўную багаслужбу ў сьвятыні, а таксама добры для навучаньня рэлігіі.

Бацькі, якія жадаюць памагчы сваім дзецям, могуць набыць беларуска-англамоўнага службоўніка ў парафіі **St. Kiryla of Turau, 524 St. Clarens Ave. Toronto, Ontario, Canada, M6H 3W7.** Аднак, той, хто хоча атрымаць успомненага службоўніка мае прыслаць грошы на пакрыцьцё пошты (перасылкі). За адзін асобнік кніжкі перасылка каштуе; у Канадзе $3.50, у Злучаныя Штаты Амерыкі $3.60, у іншыя краіны $4.10. Цчеяуе альбо Money Order выпісваць па **St. Kiryla of Turau**, зазначаючы на што прыслалі. Не атрымаўшы кошт перасылкі мы Службоўніка не высылаем.

**«РЫМСКІ ПАТРЫЯРХ»**

«Вісьнык» — The Herald, Winnipeg, Man. за сакавік, бач. 14, падае выказваньні нямецкага багаведа й псыхалога Eugen Drewermann быўшага рыма-каталіцкага сьвятара, што найбольшай перапонай да паяднаньня ёсьць тое, што рымскі папа трымаюцца папства. Думкі Drewermann, саўпадаюць нядаўна выказанымі думкамі Праваслаўных Цэркваў, для якіх папства ёсьць найбольшай і галоўнай перапонай для паяднаньня з Рыма-Каталіцкай Царквой.

Drewermann добра ведамы за ягоныя супярэчныя высказваньні пра Рыма-Каталіцкую Царкву. У 1990 годзе ён быў забаронены царкоўнымі ўладамі прапаведаваць навучаць у Рыма-Каталіцкім Унівэрсітэце ў Paderborn, Нямеччына. Тады ён пакінуў рыма-каліцкае сьвятарства.

**НОВАЯ СХІЗМА**

Згодна «Вісьнык» — The Herald, Winnipeg, Man. за сакавік, 1996, бачына першая, пададзена вестку з французскага часопісу La Croix з 27 лютага 1996 году.

Згодна гэтай весткі Маскоўская Патрыярхія ўчыніла такую самую схізму, якую учыніла Рымская Патрыярхія ў 1054 годзе, калі Рыма-Каталіцкая Царк-

ва адыйшла ў схізму. У 1054 годзе было абапольнае пракляцьце (анатама). Гэтым разам мабыць Масква не адважылася кінуць праклянцьце на Канстантынопальскага Патрыярха. У пятніцу 23 лютага 1996 году між Патрыярхамі Маскоўскім і Усяленскім наступіла схізма еўхарыстычнай супольнасьці. Прычынаю было тое, што Ўсяленскі Патрыярх Барталамей Першы аднавіў Аўтаномію Эстонскай Праваслаўнай Царквы.

Пасьля першай сьветавой вайны Эстонія атрымала сваю незалежнасьць ад Расеі. Усяленскі Патрыярхат дзеля забязьпечаньня й упарадкаваньня царкоўнага праваслаўнага жыцьця й волі эстонскіх вернікаў прызнаў Аўтаномію Эстонскай Праваслаўнай Царкве. На аснове пастановы Сыноду Ўсяленскага Патрыярхату, Усяленскі Патрыярх Мялеці (Мелетіос) IB, у ліпені 1923 году выдаў ТОМАС (дакумант) на прызнаньне Аўтаноміі для Эстонскай Праваслаўнай Царквы пад амафорам Усяленскага Патрыярха.

У 1940 годзе расейцы занялі Эстонію. Маскоўская Птрыярхія Падпарадкавала Эстонкую Праваслаўную Царкву пад сваю юрысдыкцыю, не бяручы пад увагу ТОМАС з 1923 году, выдадзены Ўсяленскім Патрыярхам.. Эстонскі Мітапаліт Аляксандар, які ачольваў Эстонкую Царкву, быў змушана зь некалькі тысячнымі вернікам ўцакаць з Эстоніі да Швецыі. Усяленская Патрыярхія праз даўжэйшы час не пагаджалася з паўсталай неканонічнай і бяспраўнай сытуацыяй з Эстонскай Праваслаўнай Царквою. Але дзеля спакою, на сталае дамаганьне Расейскай Царквы й абставінаў часу, Усяленскі Птрыярхат у 1978 годзе прымяніў царкоўную эканомію і аб'явіў томас з 1923 году нядзеючым, — але гэта не азначае што ТОМАС з 1923 году быў няважны, неадпаведны ці адклікан**ы**.

У 1991 годзе Эстонія аднавіла сваю незалежнасьць, Эстонская Царква зьвярнулася да Ўсяленскага Патрыярха, каб той зноў узяў яе пад сваю апеку. Усяленскі Канстантынопальскі Патрыярх зьвярнуўся да Маскоўскага Патрыярха, каб мірным спосабам заладзіць справу Эстонскай Царквы. Масква на ніякія прапановы Канстантынопаля не пагаджалася.

20 лютага 1996 году на паседжаньні Сыноду Ўсяленскага Патрыярхату пастаноўлена што ТОМАС з 1923 году нанава ёсьць дзеючым, і аб'яўлена, што Эстоская Праваслаўная Царква ёсьць Эстонская Аўтаномная Праваслаўная Царква пад амафорам Усяленскага Канстантынопальскага Патрыяха.

23 лютага 1996 г. прыбыла да Таліну, Эстонія, дэлягацыя ад Усяленскага Патрыярха Барталамея Першага й урачыста прагаласіла Эстонскую Праваслаўную Царкву Царквою Аўтаномнаю пад амафорам Усяленскага Патрыярха Барталамея. Таго самага дня — Маскоўскі Патрыярх Аляксей выкрэсьліў імя Ўсяленскага Патрыярха Барталамея Першага з царкоўнага дыптыху (лісты малітоўнага памінаньня імён Патрыярхаў пад час сьв. Літургіі). У сваім абвінавачаньні Ўсяленскага Патрыярха ў умешваньне ў чужую царкву ані словам не заікнулася пра ТОМАС з 1923 году й што яна бяспраўна падпарадкавала сабе Эстонскую Царкву ў першую чаргу.

Аб'яўленьне Эстонскую Праваслаўную Царкву Аўтаномнай — гэта паварот яе да таго стану, у якім яна была да 1940 году. Тады Маскоўская Патрыярхія сілаю падпарадкавала Эстонскую Царкву пад сваю юрысдыкцыю. Як бачым Масква не прызнае царкоўныя правілы ані царкоўную традыцыю, а карыстаецца нахабнай сілай.

Цяпер пытаньне, якія Цэрквы падтрымаюць Маскву й ці адбудзецца плянаваны на 1997 год Усяленскі Сабор Праваслаўных Цэркваў?

## НЯДЗЕЛЯ ПРАВАСЛАЎЯ

Штагоду Праваслаўная Царква абыходзіць Дзень Праваслаўя ў першую нядзелю Вялікага Посту. На сьвяткаваньне Праваслаўя быў запрошаны ўкраінскім сьвятаром з Судбуры айцец Міраслаў з нашае парафіі Сьв. Кірылы тураўскага з Таронта.

У нядзелю ўвечары а 17 (5 па паўдні) гадзіне адбылася саборная вячорня Праваслаўя, у украінскай сьвятыні Сьв. Уладзімера, на якую сабраліся сьвятары места Судбуры; украінскія, грэчаскія, сэрбскія і з Таронта а. М. Вайцюк. Вячорня праходзіла па-украінску, па-грэчаску, па-сэрбску й па-беларуску. Багаслужбу Праваслаўя ўпрыгожыў добры мясцовы хар Сьв. Уладзімера., які сьпяваў малітоўна вячорныя напевы.

Пасьля вячорні быў нарыхтаваны банкет для прысутнага сьвятарства й прысутным вернікам.

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦ

У сыботу а 17 (5 па паўдні) гадзіне, 2-га сакавіка 1996 году ў Memorial Hospital ў Судбуры, Антар'ё адыйшоў на вечны супакой наш сьціплы й добрага характару суродзіч Рыгор Гарадзейчык.

Р. Гарадзейчык нарадзіўся 1924 году ў вёсцы Гошчава каля Косава на Палесьсі. Пасьля вайны ён апынуўся на захадзе, потым выехаў да Канады і праз 34 гады працаваў у капальні Inco Creighton Mine ў Судбуры.

Тут Ён ажааніўся з мілай жанчынай украінкай Атылія з дому Васількоў-ская, якая не перашкаджала яму быць беларусам. Рыгор быў добрым і шчы-рым беларусам і ніколі не адмаўляўся з ахвярамі на БАПЦ і на грамадзкія мэты., калі парафія ці ЗБК да яго зьвярталіся.



*Рыгор Гарадзейчык*

Пакойны заставіў у смутку жонку Атылію, дачку Галену з мужыком Робэртам, два сыны; Міхася з жонкай Паляна, і Сьцяпана з жонкай Тацей і тры ўнукі; Андрэя, Пётру І Джоел..

Няхай будзе яму мяккай новай Бацькаўшчыны канадыйская зямля.

Вернікі парафіі Сьв. Кірылы Тураў-скага выказваюць спачуваньні смутку для сям'і пакойнага

Вечная памяць!

## РАСКЛАД ВЯЛІКОДНЫХ БАГАСЛУЖБАЎ

7 красавіка Вербная Нядзеля
10-я гадз. рана Сьв. Літургія
11 красавіка чацьвер. Пакуты Госпадавы
6-я гадз. увечары чытаньне 12 Дабравесьцяў.
12 красавіка пятніца.3-я гадз. папаўдні. Вынас Сьв. Плашчаніцы.
13 красавіка сыбота. 9-я гадз. рана.
Вячорня са Сьв. Літургіяй
11-я гадз. перад поўначчу Паўночня.

Адразу пасьля Паўночні пачынаюцца вялікодныя багаслужбы: Ютраня, Часы і Сьв. Літургія.

**УВАГА:** Тыя, што прыпазьніліся са споведзьдзю, змогуць паспавядацца на Вербную Нядзелю, у Вялікую Сыботу рана, у Вялікую Сыботу перад Паўночняй і на Вялікдзень ў часе перапынку паміж Ютраняй і Сьв. Літургіяй на Вялікадні.

## ANNUAL MEETING AND MEETING OF THE BOARD OF DIRECTORS OF THE CANADIAN RELIEF FUND FOR CHERNOBYL VICTIMS IN BELARUS

For the fifth time Canadians of different ethnic backgrounds got together for the Annual Meeting of the Fund to discuss work done, to plan for the future and to elect a new Board of Directors. Meeting was held on October 14, 1995 in Hull, Que., just across the river from Ottawa. This year the meeting had more people attending than

ever before and also, thanks to the technical marvel of telecommunication, members from British Columbia by telecommunication. This is the 21st century in practice. At present, the Fund is active from the Atlantic across Canada to the Pacific and is helping victims of Chernobyl disaster in Belarus. Newspapers in Belarus hardly ever give a mentioned to the activities of Canadian Fund for the Victims of Chernobyl regardless of the assistance of the Fund to Belarus that has long past the million dollars worth of charity.

Before the Annual Meeting the Board of Directors held its own meeting to discuss the agenda of the Annual Meeting, to discuss the agenda for the next period of activities, the acceptance of new members and to discuss reports to the Annual Meeting.

Before I will report on the Annual Meeting, it would be proper to assess the history and activities of the Fund. The idea to establish the Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belarus came from Mrs. Joanna Survilla, Mrs. Pauline Paskievich and Dr. Zina Gimpilevitch in 1988 and they accomplished it by enrolling into the organization Rt. Rev. Archbishop Mikaly of the BAOC, Dr. B. Ragula, Mr. Janka Survilla, Dr. Raisa Zuk-Hryskievic and Mr. Mikola Ganko. In 1989 the Fund was incorporated and begun its activities. The budget for the first year was approximately $500.00 but for 1994 it was $374,892.00. In first year of its existence the Fund had 8 voting members, and in 1995 95 voting members. In 1991 the Fund brought over 50 children from Belarus for recuperation in Canada with 50 Canadian families participating, and in 1995 the Fund brought over 400 children from Chernobyl zone in Belarus with the participation of over 600 Canadian families. Besides the Children's Program, the Fund has a program of Doctors exchange, the acquisition and sending to Belarus of medical equipment and medicines. Thanks to the efforts of the members of the Fund the program was started for children's dentistry in Belarus in conjunction with Western University in London, Ontario, Canada and the Belarusian Dentistry Institute in Miensk, Belarus. The Program is now under way and it is working independently of the Fund.

The Annual Meeting began on time and immediately the Members from BC were connected up by telecommunication and took on active part in the Meeting. President of the Fund Mrs. Joanna Survilla, presided over the Meeting and conducted it with a professional touch, except on very few occasions, when older members were forgetting about microphones and were leaving members in BC in the dark until they were intervened by Mr. A. Kovalenko. From the reports it was obvious, that the executive of the Fund is too small and not all roles ware adequately manned to fulfill the requirements of the membership and different situations. Some members of the Board simply were burnt out by the end of the year. But one must say, regardless of all shortcomings, all necessary work was done, all obligations ware fulfilled. Finances were gathered and used for the purposes indicated, only 9% of the funds was used for administrative purposes. All work of the members, supporters and members of the Board of Directors was done on a voluntary basis without any pay. One person was hired for the administrative work with the conjunction with the arrival of the children from Belarus. At the appropriate time in the Meeting new members of the Fund were introduced. Those are the people, who have proven themselves with work and devotion to the cause and now are full voting members. After the reports of the Executive and discussions and acceptance of the agenda for the future, elections were held for the new members of the Board of Directors. Directors are elected for two years. As was mentioned before the next Board of Directors is enlarged to 15 members to compensate for the work load, 12 members are elected and three are appointed by the regions. The new Board of Directors is as fallow: President - Mrs. Joanna Survilla, Vice-president and Liaison with Organizations in Belarus - Dr. Zinaida Gimpilevich, Secretary of the Board - Mrs. Pauline Smith-Paskievich, Treasurer - Ken Pope, Children's Program - Mrs. Lyse Chasse, Doctors Program - Dr. Borys Ragula, Funds Rising - Prof. Charles Ruud, Orphans Program - Rev. Jim Baldwin, Liaison with Belarus regarding Medical program - Mr. Mykola Ganko, Communication and Information - Mr. Alex Kowalenko, Medical and Medicine Program - Mrs. Linda Brunet and Mr. Tom Goving - temporary without portfolio. Three regional members, one each from British Columbia, one from Atlantic Region and one from Quebec will be added with cooperation with regional councils.

In our plans for the future there was some adjustments made with regards to the administrative character and also a resolution was adopted to continue all existing programs and strive to mobilize new members and supporters, not only persons but organizations and companies. The Annual Meeting was adjourned on a very optimistic and upbeat note.

After the Annual Meeting the Board of Directors held a short meeting to resolve urgent administrative matters.

The Author of this short article, after long day of meetings and deliberations while driving through rain, set out for home. At the halfway point of the trip one hospitable Belarusian family was awaiting and worrying because their guest was over one hour late due to inclement weather. Overnight rest was very welcome. Next day, on the second leg of the journey, different thoughts was coming to my mind. Thoughts of the work to be accomplished, work to be done. Yes, we Belarusans work for our people, work to save some Belarusan Children, to save our nation. The readers of this article, from the names they have encountered, must have guessed, that the majority of names are Anglo-Saxon or French. What inspires those people to work hard and give financial sacrifices. According to preliminary reports in 1995 $400,000.00 were required to carry on the work of the Fund. Funds were donated by the members and supporters and planned work was completed. That is real hard work and dedication. Who are those people? Who are they? They are teachers and medical doctors, nurses and housewives, they are pensioners and office workers, they are lawyers and military people, they are professors and clergy, they are very ordinary Canadian families, who in the majority have their own children and who do understand the tragedy of Belarus and the plea of Belarusian Children much more then leaders of the Republic of Belarus. They do not wait for applause and medals, as one Belarusan representative says in conversations with the members of the Fund. These are people who are used to doing good, to be charitable to those in need and are not looking for any medals or rewards. Their reward is a child's smile, a tender kiss or a small handshake from frail hands with the host at the end of a vacation in Canada. From time to time they receive a short letter in an unfamiliar language, when a little one finally realizes what did really happen in far away Canada. Let those lines be their reward and a word of appreciation from all of those, who until now, did not personally say! Thank You Canada and Canadians.

Mikola Ganko

«Пастыр Добры аддае жыцьцё сваё за авечкі; а найміт, ня пастыр, якому авечкі не свае, бачыць, як воўк падыходзіць, і пакідае авечкі і ўцякае, і воўк рабуе авечкі і разганяе іх; а найміт уцякае, бо найміт і на дбае пра авечкі». (Ян 10:11-13) — Пераклад Б, Сёмухі.